# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Наклад 35.170
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Серада, 25 чэрвеня 1997 | № 68 | Кошт свабодны

# Сем хвілін стыхіі

**Трое чалавек загінула і каля 50-ці людзей паранена ў выніку ўрагану, які пранёсся ў панядзелак па Брэсцкай і Мінскай абласцях. Сярод траўміраваных — 6 дзяцей (4 у пасёлку Ратамка Мінскага раёна і 2 у вёсцы Валожынскага раёна). Людзі пацярпелі ад паваленых дрэваў і кавалкаў шыферу, які ляцеў з дахаў.**

23 чэрвеня прыкладна з 18:45 да 21 гадзіны над тэрыторыяй Мінскага, Стаўбцоўскага, Капыльскага, Нясвіжскага, Уздзенскага, Клецкага, Валожынскага, Маладзечанскага, Смалявіцкага раёнаў, гарадоў Барысава і Жодзіна Мінскай вобласці пранёсся ураган. Стыхія ішла з Брэсцкай вобласці, дзе яна закранула Ганцавіцкі, Івацэвіцкі, Іванаўскі, Драгічынскі, Ляхавіцкі раёны. Найбольш пацярпелі ў Мінскай вобласці Нясвіжскі, Валожынскі, Стаўбцоўскі і Капыльскі раёны.

Як паведамілі нам у Белгідраметцэнтры, ураган узнік у выніку актыўнага перамяшчэння атмасфернага фронта пры вельмі вільготным паветры. Назіраўся перапад тэмператур ад 16 да 31 градуса цяпла. У зоне стыхійнага бедства ўтварыліся кучавыя воблакі вышынёй да 15—17 кіламетраў, што здараецца над Беларуссю вельмі рэдка. Суправаджалася гэтая з'ява навальніцамі з даждком і градам, а таксама моцным шквальным ветрам. Хуткасць ветра дасягнула ў Ганцавіцкім раёне да 32 метраў у секунду. Найбольшая колькасць ападкаў у гэты час выпала ў Вілейскім раёне (59 міліметраў), што складае амаль месячную норму.

Стыхія знесла дахі з вялікай колькасці дамоў і гаспадарчых аб'ектаў. У Клецкім раёне пацярпела 6 фермаў, у вёсцы Варацішча Стаўбцоўскага раёна знесена да 40% дахаў, у вёсцы Манькаўшчына Валожынскага раёна разбурана 6 дамоў, у Нясвіжскім раёне знесены дах на 50 пабудовах. Былі разваленыя 63 навесы для корму жывёлы, 2 воданапорныя вежы. Ветрам зносіла нават сцены. У вёсцы Рубяжэвічы Стаўбцоўскага раёна дах з аднае хаты знесла на 100 метраў у поле, а іншы дом зрушыла з фундамента. Па сведчаннях жыхароў гэтай вёскі, *«чорная хмара ляцела з неба, як самалёт»*.

Шаленства стыхіі працягвалася хвілін сем. Лісты шыферу лёталі па вуліцах, трапляючы ў людзей і аўтамабілі. Рушыліся дрэвы разам са слупамі электраперадач, якія, зблытаўшыся, завалілі вуліцы і дарогі, спыніўшы рух транспарту. Іх крышыла ветрам, нібы салому. У Ганцавіцкім раёне пацярпела каля 30 вёсак, а ў калгасе «Рассвет» зваліўся бетонны навес, пад якім стаялі камбайны (адну з гэтых машын ужо немагчыма адрамантаваць). У Нясвіжскім раёне разбіты чатыры трактары (кабіну аднаго з іх зрэзала як нажом). У некаторых гарадах спыніліся малочныя і хлебазаводы, а таксама камунальна-ачышчальныя сістэмы.

Інфармацыя пра стыхію ў Брэсцкай вобласці паступіла ў Рэспубліканскі штаб грамадзянскай абароны з вялікім спазненнем (з-за таго, што былі пашкоджаныя лініі сувязі і электраперадач). У Брэсцкай вобласці выведзена са строю да 50% ліній электраперадач. Без электрычнасці засталіся 229 населеных пунктаў.

У Мінскай вобласці ўраган пашкодзіў 15 высакавольтных ліній, 11 ліній на 35 кілават. У Стаўбцоўскім раёне скрушыла 2 кіламетры ліній электраперадач. 1.410 населеных пунктаў у вобласці, а таксама 387 ферм і механізаваных двароў засталіся без электрычнасці, выведзены са строю 3.304 падстанцыі.

Паводле папярэдніх дадзеных, у Нясвіжскім раёне нанесены ўрон у сельскай гаспадарцы ацэньваецца амаль у 100 млрд. рублёў. Для аднаўлення пабудоў спатрэбіцца толькі ў гэтым раёне 100 тыс. лістоў шыферу, каля 80 тыс. штук цэглы, больш за 2 тыс. кв. метраў шкла, 10 тыс. кв. метраў рубероіду, 2 кубы драўніны, каля 6 тыс. кілаграмаў цвікоў. У Стоўбцах людзі ўжо выкупілі ў крамах увесь шыфер, і цяпер ён стаў дэфіцытам. У Ганцавіцкім раёне не хапае бензіну, каб разабраць завалы і наладзіць сувязь з калгасамі. Медычнай дапамозе цяжка даехаць да хворых з-за завалаў на дарогах.

Ураган прымусіў спыніцца чыгуначны рух на маладзечанскім накірунку з 19:45 да 22:45, на барысаўскім з 19:45 да 21:00 і на асіповіцкім з 19:45 да 0:55.

Стыхія нанесла вялікая шкода сельскагаспадарчым пасевам, а таксама лясному фонду. У некаторых раёнах лес ляжыць, быццам пакошаны касой. У раёнах бедства ўведзены надзвычайны рэжым. Працуюць аварыйныя брыгады, аказваецца медычная дапамога пацярпелым.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

АБ'ЯДНАННЕ

## Навагрудак стаў мегаполісам

**Дэпутаты Навагрудскага гарадскога і раённага саветаў прынялі рашэнне аб аб'яднанні горада Навагрудка і раёна ў адну адміністратыўную адзінку.**

Такім чынам, цяпер у Навагрудку будзе існаваць толькі адзін Савет дэпутатаў, у адзін выканкам павінны таксама аб'яднацца гарадскі і раённы выканаўчыя камітэты.

*БелаПАН*

## Прадаеш свабодную прэсу? Марш у пастарунак!

**У панядзелак каля універсама «Цэнтральны» ў Мінску міліцыяй былі затрыманы чатыры распаўсюднікі незалежных газет — Аляксандр Горбаль, Мікалай Раманаў, Аляксандра Аліна, Галіна Апанасевіч.**

Іх даставілі ў пастарунак Ленінскага райаддзела міліцыі на вул. К.Маркса, 30. Усе газеты, якія былі ў затрыманых («БДГ», «Имя», «Народная воля» і інш.), міліцыя забрала. Ва ўсіх затрыманых былі пасведчанні прыватных прадпрымальнікаў і адпаведныя ліцэнзіі, аднак, па словах работнікаў міліцыі, неабходна мець яшчэ і дазвол райвыканкама на гандаль у пэўным месцы. Разам з тым, як адзначыла адна распаўсюдніца газет, побач стаялі гандляркі семкамі, кветкамі, але іх міліцыянты не зачапілі.

*«Мы панясем вялікія страты,* — сказала яна. — *Калі нам неадкладна не вернуць газеты, праз некалькі дзён іх ужо ніхто не купіць».* Па словах жанчыны, перад тым, як іх затрымала міліцыя, да іх падыходзіў адказны работнік Ленінскага райвыканкама і патрабаваў спыніць продаж газет.

*БелаПАН*

# Еўропа будзе думаць

*Парламенцкая асамблея Савета Еўропы не прыняла ніякіх рашэнняў па «беларускім пытанні»*

Палітычная сітуацыя ў Беларусі абмяркоўвалася ўвечары 23 чэрвеня на паседжанні палітычнага камітэта Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы ў Страсбургу. Як вядома, у паседжанні бралі ўдзел дзве беларускія дэлегацыі — Вярхоўнага Савета 13-га склікання на чале з Пятром Краўчанкам і прэзідэнцкага «нацыянальнага сходу», якую ўзначальваў Юрый Малумаў. Кіраўнікі дэлегацый зрабілі кароткія пяцiхвілінныя паведамленні, пасля чаго пачалося абмеркаванне.

На прэс-канферэнцыі старшыня ПАСЕ Лені Фішэр паведаміла, што ніякага рашэння па «беларускім пытанні» на летняй сесіі прымацца не будзе: асамблея вырашыла абмежавацца слуханнямі, мэта якіх, па словах Л.Фішэр, выключна інфармацыйная. Яна таксама выказала свой пункт погляду на цяперашнюю сітуацыю ў Беларусі. На думку Л.Фішэр, *«у тым, што адбылося, ёсць доля віны кожнага боку, усе ў той або іншай ступені вінаватыя»*. Адказваючы на пытанне, калі Беларусі будзе вернуты статус спецыяльна запрошанай у ПАСЕ, Лені Фішэр адказала: *«Каб гэта адбылося, у Беларусі многае павінна змяніцца».*

Старшыня ПАСЕ таксама сказала, што, на думку місіі Еўрасаюза, якая нядаўна ўздельнічала ў трохбаковых кансультацыях у Мінску, найбольш прымальным выйсцем з цяперашняга палітычнага крызісу былі б новыя выбары. Пры гэтым яна падкрэсліла, што выбары магчымыя і будуць мець сэнс толькі ў тым выпадку, калі беларуская ўлада правядзе іх з поўным захаваннем дэмакратычных нормаў і працэдур.

Дарэчы, у кулуарах Парламенцкай асамблеі прайшла чутка, што міністр замежных справаў Беларусі Іван Антановіч нібыта даў згоду на адкрыццё ў Мінску афіцыйнага прадстаўніцтва АБСЕ.

*БелаПАН*

УКАЗ

Президента Республики Беларусь

## На шыю беларускаму народу хочуць пасадзіць яшчэ адну армію

______ июня 1997 г.

О создании обще... системы по работе с детьми и молодежью и государственной поддержке Белорусс... Патриотического Союза Молодежи

В целях развития молодежног... лучших патриотических традиций, ...лодежи постановляю:

Премьер-министру Республики Беларусь Лингу С.С.

Уважаемый Сергей Степанович!

Председатель Комитета государственного контроля Республики Беларусь ... Н.Ф.Домашкевич

...идента РБ пре...

помощника Прези... ...дежной политики.

*Прэзідэнцкія «патрыёты» выставілі прэм'ер-міністру рахунак на 12 млрд. рублёў. Галоўны кантралёр Дамашкевіч даў кіраўніку ўрада два тыдні на роздум*

# Нават камсамол не меў столькі, колькі хоча лукамол

**Цікавыя дакументы трапілі ў рэдакцыю СВАБОДЫ з Савета міністраў. Паперы датычаць Беларускага патрыятычнага саюза моладзі. Кіраўніцтва гэтай арганізацыі просіць урад выдзеліць на гэты год 12 мільярдаў 337 мільёнаў рублёў «для развития нового молодежного Союза» (у тым ліку 3,7 мільярда — на зарплату «патрыётам»). Але гэта далёка не ўсё, што хоча атрымаць БПСМ. Перад намі праект прэзідэнцкага ўказа, які падрыхтавалі «патрыёты».**

**Цытуем:** «В целях развития молодежного движения и воспитания молодежи в духе лучших патриотических традиций, обеспечения гарантий социальной и правовой защиты молодежи постановляю:

Признать всемерную поддержку развития Белорусского Патриотического Союза Молодежи в Республике Беларусь одной из приоритетных задач государства.

Ввести представителей Белорусского Патриотического Союза Молодежи в состав коллегий министерств и государственных комитетов, занимающихся проблемами культуры, образования, печати, теле- и радиовещания, социальной и чернобыльской сферы, а также в состав руководства Фондов Президента Республики Беларусь (до 1.10.97 г.).

Ввести руководителей областных, городских и районных структур Белорусского Патриотического Союза Молодежи в состав соответствующих исполнительных комитетов (до 1.10.97 г.).

Министерству образования, руководителям высших и средних специальных учебных заведений оказывать всемерную поддержку Белорусскому Патриотическому Союзу Молодежи по созданию первичных организаций в ВУЗах, ССУЗах, ПТУ, колледжах, школах и других учебных заведениях республики с предоставлением помещений и их технического оснащения.

Комитетам Белорусского Патриотического Союза Молодежи в учебных заведениях передать: функции, средства, права и полномочия профсоюзных комитетов студентов и учащихся, а также функции контроля над распределением стипендиального фонда и фонда материального поощрения учащихся.

Ввести представителей комитетов БПСМ в учебных заведениях в состав соответствующих ректоратов, ученых советов вузов, администраций учебных заведений.

Администрации предприятий государственной и смешанной форм собственности оказывать поддержку Белорусскому Патриотическому Союзу Молодежи при создании первичных организаций на предприятиях, а также в части решения материально-технических вопросов, выделения финансирования для реализации молодежных программ.

Национальной Гостелерадиокомпании до 1.09.97 г. создать на радиочастоте 101.2 молодежную радиостанцию БПСМ, а также создать совместные периодические молодежные теле- и радиопередачи.

Государственному Комитету по печати и Министерству по управлению государственным имуществом и приватизации в месячный срок решить вопрос о передаче Центральному Комитету Белорусского Патриотического Союза Молодежи права учредителя газеты «Знамя Юности», а также об учреждении периодических изданий, рассчитанных на молодежную и подростковую аудиторию.

Министерству обороны, МВД, КГБ оказывать всемерное содействие в создании организаций Белорусского Патриотического Союза Молодежи в воинских коллективах, правоохранительных органах, органах безопасности.

Установить обязательность представительства Белорусского Патриотического Союза Молодежи в работе призывных комиссий военных комиссариатов (срок до 1.09.97 г.).

Местным органам власти оказывать всемерное содействие и поддержку Белорусскому Патриотическому Союзу Молодежи и реализуемым Белорусским Патриотическим Союзом Молодежи программам. Ответственность за исполнение настоящего пункта возложить на руководителей соответствующих местных органов власти.

Министерствам иностранных дел, внешнеэкономических связей, спорта и туризма совместно с ЦК БПСМ в двухмесячный срок разработать комплексную программу международного молодежного сотрудничества с обеспечением источников ее финансирования.

Представителей Белорусского Патриотического Союза Молодежи в обязательном порядке включать в состав общественных контрольных комиссий по проверке сдачи выпускных экзаменов в школах и вступительных экзаменов в ВУЗы республики.

*(Працяг на стар. 2)*

# Менш за мінімум

**Амаль чатыры мільёны людзей, або 39% усяго насельніцтва краіны, маюць даходы ніжэйшыя за афіцыйны пражытачны мінімум.**

Міністэрства статыстыкі і аналізу нарэшце падвяло баланс першых чатырох месяцаў 1997 года. Як вынікае з падлікаў, за студзень—красавік (у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года) спажывецкія цэны выраслі на 57,9%, а рэальныя грашовыя даходы павялічыліся толькі на 20%.

Вельмі цяжка пенсіянерам: рэальны памер месячнай пенсіі не толькі не вырас, але паменшыўся ў студзені-красавіку 1997 года на 3,5 працэнта ў параўнанні з адпаведным перыядам 1996-га.

Пражытачны мінімум у першым квартале 1997 года складаў 893,1 тысячы рублёў у месяц на чалавека. Як сведчыць міністэрства статыстыкі, у студзені—сакавіку гэтага года 3 мільёны 992 тысячы чалавек (39% усяго насельніцтва краіны) мелі грашовыя рэсурсы ніжэйшыя за пражытачны мінімум. Намінальная сярэднемесячная заработная плата, налічаная работнікам ў студзені-красавіку 1997 года, склала 1.700,1 тысяч рублёў, іначай кажучы, сярэднестатыстычнаму работніку недастаткова зарплаты, каб забяспечыць пражытачны мінімум для сябе і аднаго ўтрыманца. Такім чынам, сем'і, у якіх абое бацькоў працуюць і выхоўваецца двое дзяцей, патэнцыяльна трапляюць за рысу беднасці.

Аднак нават такая мізэрная зарплата выплочваецца нерэгулярна. На 26 траўня 1997 года агульная сума пратэрмінаванай запазычанасці па зарплаце складала 705,6 мільярда рублёў — 13,3% агульнага фонду заработнай платы, налічанай за красавік. У перыяд з 25 красавіка па 26 траўня было пагашана 328,9 мільярда рублёў запазычанасці за студзень-сакавік 1997 года, але адначасова ўтварылася запазычанасць за красавік у памеры 594,8 мільярда рублёў. Больш як 53% агульнай запазычанасці прыпадае на калгасы і саўгасы.

*БелаПАН*

*На здымку: для многіх людзей гарадскія сметнікі сталі месцам папаўнення мінімальнага спажывецкага бюджэту.*

# Нават камсамол не меў столькі, колькі хоча лукамол

*(Пачатак на стар. 1)*

Освободить от уплаты следующих видов налогов: подоходного налога, налога на недвижимость, налога на землю, налога на добавленную стоимость с денежных средств, полученных в результате деятельности Белорусского Патриотического Союза Молодежи и его хозяйственных структур.

Министерству финансов в месячный срок выделить из резервного фонда Президента необходимые финансовые и иные средства для обеспечения деятельности аппарата Центрального Комитета Белорусского Патриотического Союза Молодежи, областных, городских, районных структур БПСМ.

Местным исполнительным и распорядительным органам осуществить передачу соответствующим территориальным организациям Белорусского Патриотического Союза Молодежи помещений с их необходимым техническим оснащением, принадлежавших до 1987 года ЛКСМБ, по согласованию с руководством территориальных организаций Белорусского Патриотического Союза Молодежи. Расходы по содержанию указанных помещений производить за счет местных бюджетов (срок до 1.08.97 г.).

Министерствам жилищно-коммунального хозяйства, образования, местным исполнительным и распорядительным органам осуществить передачу в ведение Белорусского Патриотического Союза Молодежи помещений для работы с детьми и подростками по месту жительства с обязательным финансированием из средств ЖЭСов, выделяемых на организацию воспитательной и физкультурно-оздоровительной рабты (срок до 1.09.97 г.).

Местным исполнительным и распорядительным органам в трехмесячный срок решить вопрос о передаче дворцов пионеров и школьников с источниками их финансирования территориальным подразделениям Белорусского Патриотического Союза Молодежи.

Управлению Делами Администрации Президента, Министерствам по управлению государственным имуществом и приватизацией, жилищно-коммунального хозяйства в трехмесячный срок передать в собственность Белорусскому Патриотическому Союзу Молодежи ряд объектов туристического и физкультурно-оздоровительного назначения согласно предложениям ЦК БПСМ.

В целях организации работы Белорусского Патриотического Союза Молодежи Управлению делами Президента Республики Беларусь обеспечить передачу на баланс БПСМ здание по адресу: ул.К.Маркса, 40 с решением вопросов его ремонта и технического оснащения.

Для решения кадровых вопросов Белорусского Патриотического Союза Молодежи:

— Управлению делами Президента РБ передать на баланс БПСМ общежития с обеспечением капитального ремонта;

— горисполкому г.Минска разрешить руководителю Белорусского Патриотического Союза Молодежи предоставлять работникам БПСМ десять постоянных прописок в год.

В целях организации занятости учащихся и студенческой молодежи в свободное от учебы время создать при Белорусском Патриотическом Союзе Молодежи фонд «Содействия занятости учащихся и студентов», определив в Положении о данном фонде основным источником финансирования ежегодные отчисления в размере 5% из Государственого фонда содействия занятости населения Республики Беларусь.

Министерству предпринимательства и инвестиций совместно с ЦК БПСМ в двухмесячный срок разработать програму поддержки и развития молодежного предпринимательства, предусмотрев создание фонда «Поддержка молодежного предпринимательства», основным источником финансирования которого будут являться ежегодные отчисления в размере 10% из Белорусского фонда поддержки предпринимательства.

В целях повышения эффективности работы и усиления контроля на местах за использованием бюджетных средств, определить заказчиком «МЖК» Белорусский Патриотический Союз Молодежи и выделить с этой целью из резервного фонда Президента РБ 100 млрд. рублей в третьем квартале текущего года, а также ввести в комиссии местных исполкомов представителей БПСМ по распределению льготных кредитов для улучшения жилищных условий молодежи.

С целью социально-экономической поддержки молодежи, работающей в сельском хозяйстве, создать при БПСМ фонд «Содействия и поддержки сельской молодежи», основным источником финансирования которого будут являться ежегодные отчисления в размере 3% из внебюджетного фонда «Поддержки производителей сельскохозяйственной продукции и продовольствия».

Администрации Президента Республики Беларусь в двухнедельный срок установить полномочия и ответственность государственных органов, а также должностных лиц в вопросах государственной поддержки БПСМ».

У лісце на імя Лукашэнкі першы сакратар ЦК БПСМ Янчэўскі просіць прэзідэнта *«приурочить подписание указа к 29 июня (Дню молодежи), что будет весьма символично»*.

«Патрыёты» тлумачаць свае фінансавыя і іншыя запатрабаванні шчыра і проста: *«Без существенных прав и полномочий, без реальной власти, без достаточных средств ничего не сделаешь... Что может сделать БПСМ, получив несколько десятков ставок, несколько машин и 15—20 наспех отремонтированных комнат? По существу ничего... Поэтому самый главный вопрос, который необходимо решить сегодня, — это вопрос указа президента. БПСМ должен стать сильной организацией, напрямую подчиненной президенту, с государственным аппаратом по примеру ВЛКСМ»*. Пры гэтым «патрыёты» абяцаюць, што *«БПСМ пойдет правильным путем — пойдет туда, куда укажет наш лидер, президент Лукашенко»*.

А ўтрымліваць гэтую армію новых камсамольцаў давядзецца нам з вамі — беларускім падаткаплацельшчыкам.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Колькі каштуе мяжа?

**У раёне населенага пункта Клевіца (Гродзенская вобласць) прыступіла да працы беларуска-літоўская тэхнічная рабочая група па дэмаркацыі дзяржаўнай мяжы паміж Беларуссю і Літвой.**

Групу ўзначальвае галоўны інжынер тапографа-геадэзічнай экспедыцыі аб'яднання «Белгеадэзія» Анатоль Яскевіч. Як паведаміла прэс-служба Дзяржаўнага камітэта пагранвойскаў, спецыялісты займаюцца распрацоўкай праектна-каштарыснай дакументацыі па правядзенні дэмаркацыйных работ. Мяркуецца, што група завершыць сваю працу праз паўтара-два месяцы. Пасля гэтага адбудзецца паседжанне змешанай беларуска-літоўскай камісіі, якая вызначыць канчатковую суму затратаў на правядзенне дэмаркацыйных работ.

*БелаПАН*

## Палова тавараў нікому не патрэбная

*Амаль кожнае пятае прадпрыемства — стратнае*

У траўні гэтага года зніжэнне аб'ёмаў прамысловай вытворчасці ў параўнанні з красавіком склала 6,2%. Пры гэтым запасы гатовай прадукцыі на складах прадпрыемстваў склалі 49,5% ад агульнага аб'ёму прамысловай прадукцыі, выробленай у траўні.

Паводле звестак міністэрства статыстыкі і аналізу, найбольшы спад вытворчасці ў траўні 1997 года ў параўнанні з красавіком назіраўся ў электраэнергетыцы, лёгкай прамысловасці, машынабудаванні і металаапрацоўцы.

Доля стратных прадпрыемстваў у беларускай прамысловасці — 18,4%. Найбольш стратных прадпрыемстваў — у прамысловасці будаўнічых матэрыялаў (41,4%), электраэнергетыцы (37,5%), лёгкай (30,4%) і паліўнай прамысловасці (22%).

## Прафсаюзы вострацць зубы

**На другую палову жніўня Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі запланавала правядзенне масавай акцыі пратэсту.**

У сувязі з гэтым пачаліся сустрэчы кіраўнікоў Федэрацыі з прафсаюзнымі актывамі буйных прамысловых прадпрыемстваў. Акцыяй пратэсту прафсаюзы збіраюцца прыцягнуць увагу кіраўніцтва краіны да комплексу сацыяльных праблемаў і, у прыватнасці, да сітуацыі з аплатай працы.

Апошнія рашэнні ўрада і прэзідэнта парушаюць трохбаковае Генеральнае пагадненне: памер зарплаты практычна «замарожаны» у той час як цэны на харчовыя тавары, электраэнергію і жыллёва-камунальныя паслугі растуць; доля зарплаты ў аб'ёме валавога ўнутранага прадукту ніжэйшая за паказчык, зафіксаваны ў Генеральным пагадненні. У такой сітуацыі ФПБ мае намер зноў паставіць перад урадам пытанне аб неабходнасці павелічэння памеру мінімальнай зарплаты.

*БелаПАН*

## У новых гаспадароў старыя звычкі

**Па-ранейшаму несвоечасова выплочваюцца заробкі на прамысловых прадпрыемствах Гомеля.**

Найбольшую запазычанасць маюць аб'яднанне «Гомсельмаш» і акцыянернае таварыства «Вэсткар» (былы «Карал»). Новы ўладальнік пакета акцый «Вэсткара» — амерыканская кампанія «Вэстрэй» — пакуль не спяшаецца ламаць заганную практыку несвоечасовай выплаты зарплаты. Запазычанасць за красавік тут складае 14% ад фонду аплаты працы, за травень — усе 100%. Нестабільна выплочваецца зарплата і на гомельскім заводзе станочных вузлоў, заводзе «Электраапаратура» і інш.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

СВЯТА

## Памяці Купалы

Заўтра з 18:00 у скверы Янкі Купалы, каля помніка песняру, адбудзецца чарговае свята беларускай паэзіі, якое ладзяць Таварыства беларускай мовы і Сацыял-дэмакратычная партыя Народная Грамада.

На гэты раз паэтычныя чытанні прымеркаваныя да 55-й гадавіны трагічнай смерці Янкі Купалы, які загінуў 26 чэрвеня 1942 года ў Маскве. У вечарыне паэзіі пад адкрытым небам возьмуць удзел Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, маладыя паэты і барды.

**Алесь ГУРЫНОВІЧ**

ПРАЖЭКТЫ

# Бульбургер ад «Беларускага бістро»

**На думку міністэрства гандлю, сёння практычна няма здаровай канкурэнцыі дарагому рэстараннаму сервісу замежных кампаній. Таму ў нетрах міністэрства ўзнікла ідэя стварэння нацыянальнай сістэмы прадпрыемстваў хуткага харчавання «Беларускае бістро».**

Распрацаваная ў міністэрстве канцэпцыя прадугледжвае адкрыцце да 2000 года амаль 2.000 прадпрыемстваў хуткага харчавання. Як паведаміў А.Батура, начальнік аддзела арганізацыі грамадскага харчавання мінгандлю, на працягу 1997-1998 гадоў па праграме «Беларускае бістро» будзе адчынена 300 пунктаў «хуткай яды».

Сёння вядзецца работа па адкрыцці ўжо ў бліжэйшыя месяцы двух рэстаранаў хуткага абслугоўвання ў Мінску. Міністэрскія чыноўнікі хочуць першымі атрымаць магчымасць хуценька, смачна і нядорага перакусіць, таму адзін з новых рэстаранаў размесціцца побач з будынкам міністэрства гандлю (каля стадыёна «Дынама»), другі — на праспекце Машэрава.

Акрамя стварэння стацыянарных рэстаранаў, ужо вызначаныя месцы для 36 мабільных пунктаў хуткага харчавання. У рамках праграмы мяркуецца развіваць і прыдарожны сервіс уздоўж аўтамагістралі Брэст—Мінск—мяжа Расійскай Федэрацыі.

Для той часткі моладзі, якая марыць аб кар'еры прыбіральшчыка або касіра ў «Макдональдсе», з'явіцца альтэрнатыва. На працягу пяці гадоў рэалізацыі праграмы «Беларускае бістро» плануецца стварыць больш за 7,5 тысяч працоўных месцаў, неўзабаве будзе абвешчаны конкурсны набор супрацоўнікаў для рэстаранаў. Прычым, на думку А.Батуры, працаваць у новых рэстаранах будзе прэстыжна для моладзі, работа будзе высокааплатная і вельмі цікавая.

Праграма «Беларускае бістро» нездарма названая «нацыянальнай», лічаць у міністэрстве. Асноўная частка абсталявання будзе вырабляцца на айчынных заводах, узоры тэхнікі і начыння можна ўбачыць на выставе «Бістро-97», якая адчынілася ўчора ў выставачным комплексе на праспекце Машэрава, 14 у Мінску. У распрацоўцы новых тэхналогій і абсталявання ўдзельнічалі такія гіганты зусім не рэстараннай прамысловасці, як МАЗ, аб'яднанне «Атлант», БелВАР, а таксама навукова-даследчыя і праектныя інстытуты. Напрыклад, на аснове тэхналогій лазернай апрацоўкі створаны новы посуд, які можа канкурыраваць з прадукцыяй фірмы Zepter. Як сцвярджаюць распрацоўшчыкі, гатаваць ежу ў такім посудзе можна без солі, цукру і масла, да таго ж няма патрэбы пераварочваць прадукты на патэльні або ў каструлі.

На прэс-канферэнцыі журналістам паказалі патэнтны таварны знак і лагатып «Беларускага бістро», выкананыя ў колерах лукашэнкаўскага сцяга. Па словах А.Батуры, быў праведзены спецыяльны конкурс сярод спецыялістаў, *«якіх мы ведаем»*. Выбар колераў быў дакладна растлумачаны — каб ні ў кога не заставалася сумненняў. Так, чырвоны колер, сказаў А.Батура, з'яўляецца раздражняльнікам для чалавека, і рэклама ва ўсім свеце яго выкарыстоўвае — напрыклад, той жа «Макдональдс». Зялёны — *«гэта колер Беларусі»* (падобна, што мы ўсё ж мусульманская краіна). Ну, а белы колер сімвалізуе *«чысціню і парадак, падкрэслівае, што высокі сервіс з'яўляецца асноўным атрыбутам прадпрыемстваў «Беларускага бістро»*.

Такім чынам, планы міністэрства прыгожыя і маштабныя. Аднак дасужыя журналісты так і не дамагліся адказу на адно пытанне — колькі ж патрэбна сродкаў на рэалізацыю ўсёй гэтай праграмы? Пра гэта міністэрства гандлю абяцае паведаміць пазней. І рэальнасць стварэння «Беларускага бістро» пасля такога адказу пачынае выклікаць сумненні.

**Вераніка СТРОЕВА**





